


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 23 (1110) ГОД XXII БЕЛАСТОК 5 ЧЭРВЕНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.



*У Гарадоцкай гміне ў дзень партыйнага чыну найбольш людзей сабралася на дарозе з Гарадка ў Грыбаўцы.*

## З рэпарцёрскіх запісак

## ДЗЕНЬ ПАРТЫЙНАГА ЧЫНУ

Нядзеля, 15 мая. Набліжаецца гадзіна восьмая. За Гарадком на раскопанай дарозе ў Грыбаўцы збіраюцца людзі, узброеныя лапатамі. Сярод іх сакратар гміннага камітэта партыі Мікалай Дуброўскі.

Паводле нашай ацэнкі, да партыйнага чыну ў Гарадоцкай гміне прыступіла сёння 1100 чалавек.

Сакратар спяшаецца. Яму трэба наведаць іншыя групы людзей, сказаць ім добрае слова, пахваліць за шчырую працу.

Азіраюся на дарогу. За паўгадзіны часу людзі паспелі зраўняць і засыпаць жвірам значны яе адрэзак — прыблізна метраў сто.

*

За Міхаловам, на паварoце дарогі ў Юшкаў Груд, дзе абсталявала сваю сядзібу прадпрыемства „Імшар“, вялікі чырвоны лозунг з прывітаннем удзельнікаў партыйнага чыну. Тут таксама будуюць дарогу, якая мае адкрыць доступ да новых залежаў каштоўнага торфу ў Рабінаўцы, а пры нагодзе аблегчыць жыццё сялянам многіх навакольных вёсак.

Грукочуць машыны, трактарысты падвозяць жвір. Людзі расцягнуліся на звышкіламетравым адрэзку. Прыехалі яны з Цыванюкоў, Юшкавага Груда, Патокі, Сушчы, Адногі, Кухмоў, з надлясніцтва „Жэдня“, з міхалоўскай цагельні, з СКР-у, прадпрыемства „Імшар“ і з іншых устаноў.

*

І зноў звяртае маю ўвагу працавітая мітусня на дарозе, якая скароціць і аблегчыць праезд з Гарадзіска ў Плянту, значыць, між дзвюма брукаванымі дарогамі.

Начальнік Нараўкаўскай гміны Язэп Навіцкі інфармуе:

— Сёння ў нашай гміне працуе больш тысячы людзей. Яны заняты карыснай работай на чыгуначнай станцыі ў Нараўцы і пры пасадцы лесу ў нашым надлясніцтве. Асабліва хачу падзякаваць членам гуртка вясковых гаспадынь са Скупава, якія ўсе як адна прыйшлі на грамадскую працу ў дзень партыйнага чыну. Дзякаваць трэба было б яшчэ многім, напрыклад, нараўкаўскаму СКР-у, які аддаў у распараджэнне ўдзельнікаў чыну ўсю сваю цяжкую тэхніку. Таму і работа ідзе тут вельмі спраўна.

*

Пара ў Гайнаўку. Гадзіна першая пасля абеду. Чын закончаны. Штаб падводзіць вынікі. На дрэваапрацоўчым камбінаце ад шостай гадзіны раніцы працавала амаль 600 асоб. Сем мэблёвых камплектаў „Пушча“, 80 канапаў, 360 квадратных метраў падлогавай клепкі, шмат чаго іншага. Вартасць амаль 680 тысяч злотых.

Прадстаўнік прадпрыемства „Гаймахлес“ кажа, што плугі і машыны для прапολкі лесу, якія яны выпусцілі ў час партыйнага чыну, ўжо павандравалі ў краіну, будуць служыць людзям.

З падлікаў сакратара гміннага камітэта вынікае, што ўдзельнікі партыйнага чыну ў гміне пасадзілі звыш

(Працяг на стар. 4)

## КУЗНЯ ЮНЫХ МАТЭМАТЫКАЎ

Праца ў пачатковай школе ў Аўгустове каля Бельска нялёгкая, бо па прычыне невялікай колькасці дзяцей (у школе каля 80 вучняў) усе класы злучаныя і вымагаюць ад педагога і вучня асаблівай стараннасці, сістэматычнасці і ўвагі. Аднак тутэйшыя настаўнікі знайшлі ў сабе сілу і ахвоту павышаць свае кваліфікацыі, і сярод пяці аж трое вучыцца завочна. На другім курсе педагогікі ў Вышэйшай педагагічнай школе ў Быдгашчы займаецца Васіль Кардзюкевіч, да кваліфікацыйнага экзамена па рускай мове падрыхтоўваецца Марыя Манаховіч, Вера Кардзюкевіч якраз заканчвае магістэрскую працу па матэматыцы. Праўда, гэта вельмі ўскладняе працу ў школе — настаўнікі часта выязджаюць на лекцыі, практычныя заняткі, кансультацыі, ідуць у водпуск для падрыхтоўкі да экзаменаў ці напісання выпускных прац. Іх трэба заступаць, а тут няма каму, бо тых, што не вучацца — усяго двое. І нярэдка здараецца, што ім тады даводзіцца працаваць з васьмю класамі. Але такія цяжкасці ў працы школы рэкампенсуюцца: урокі высокакваліфікаваных настаўнікаў больш эфектныя, а ўлюбёнасць іх у навуку і імкненне не спыняцца на дасягнутым адразу перадаецца вучням. А прыкладаў для пацвярджэння не трэба далёка шукаць.

У 1974/75 навучальным годзе вучаніца восьмага класа тутэйшай школы заняла першае месца ў гмінным і паветовым і другое месца ў ваяводскім матэматычных турнірах. Нехта скажа: „Ну, што ж, бывае, відаць, надта здольная па матэматыцы дзяўчынка“. Што А. Анацік — вельмі здольная, гэта факт, які пацвярджаецца цяпер яе надта добрымі вынікамі ў вучобе ў матэматычным класе ў Бельскім беларускім ліцэі, актыўнай дзейнасцю ў аўгустоўскім гуртку ССПМ, а нават дасканалымі фельетонамі на тэмы жыцця мясцовай моладзі, якія яна змяшчае ў

(Працяг на стар. 5)

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77



*Салістка Тамара Ільяшук з Бельскага беларускага ліцэя заняла другое месца ў групе салістаў у катэгорыі сучаснай песні.*

Фота **К. Свідэрскага**



## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА




У нядзелю пайшоў я ў поле. Не, не да працы, хаця часам, асабліва, калі дзеці з горада прыедуць, здараецца мне шчыра папрацаваць у святочны дзень. На гэты раз, аднак, пайшоў я ў поле адзін.

У полі стаяла адвечная цішыня. Як сто ці дзвесце гадоў таму назад, калі з драўлянай сахой за валамі па гэтым жа полі хадзіў мой дзед і прадзед. Колькі ж часу корміць нас гэтая зямелька? Можа тысячу гадоў, а можа і болей? Каго яна не бачыла, пад уладай якіх каралёў і цароў яна не бывала! Таптал і яе татары, шведы і немцы. Яны адыходзілі, а мы аставаліся. Часам адлучаліся на нейкую вайну, або ў бежанцы, але зноў вярталіся, можа не ўсе, але вярталіся — на сваё, на роднае. І зноў аралі, і зноў сеялі... Кожны з гэтых загончыкаў помніць сляды нашых ног: маіх, бацькавых, дзедавых, прадзедавых... Толькі сын адрокся... Хаця і яму давялося не мала поту выліць на гэтую зямлю. І напэўна не адзін раз засумуе за гэтым полем, за бязмежным прасторам, які маніць вочы вясёлкай вясенніх колераў.

А вочы проста любаваліся. Жыта пачало ўжо страляць у здзябло, пшаніца шпарка яго даганяе, авёс сцелецца роўным зялёным дыванам, а ячмень вострымі вусікамі імкнецца на волю.

Узабраўся я на ўзгорак пад лесам, адкуль відаць амаль уся мая калонія, і, як той палкаводзец, назіраў за сваім багаццем. А багацце гэтае сапраўднае. Ні на грошы і ні на золата яго не памяняеш. Гэта праца маіх рук. Яна як на далоні. Адразу відаць, што зрабіў дрэнна і шчыра, а што абы-як.

Працяг на стар. 4



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

## Bractwo Kurkowe

Заказвала Аля Васілюк з Курашава.




Дарагое Сэрцайка! Два гады назад я выйшла замуж. Пажаніліся мы з вялікага кахання і жылі шчасліва на новай кватэры. Абое працавалі і, вярнуўшыся з работы разам, спраўляліся з хатнімі абавязкамі. Але нарадзілася дзіця, я пабаялася, што будзе цяжка мне з малышом, дык забрала з вёскі маму. Хаця яна і там патрэбная, але прыехала да нас. Мама вельмі працавітая, ні хвіліны не ўседзіць бясчынна, дык не толькі дзіця даглядала, але выручала нас амаль ва ўсіх справах. І муж мой, які так мне калісьці памагаў у дамашняй рабоце, зусім адвык ад якой-колечы работы. Яму ўжо нават і смецця вынесці не хочацца. Ды і ўвогуле нейкі іншы зрабіўся. Калісьці вясёлы, задаволены — стаў маўклівы, нахмураны. Кажа: не гаспадар я цяпер у хаце. Праўда, цяпер у нас усе справы вырашае мама. Яна і дома ўсім кіравала. Яна вельмі ашчадная, і ўсё, што мы купім, ёй здаецца лішнім, непатрэбным. Хацела б, каб усё рабілася пад яе дыктоўку. Мужа гэта нервуе, а маме нічога сказаць нельга, яна зараз абразіцца. І ўжо задумала вярнуцца назад на вёску. Я гавару, каб асталася, баюся, што будзе цяжка. А муж, відаць, хацеў бы, каб мы адны жылі. А як ты, Сэрцайка, параіш?

Зіна з Бельска

Зіна! Найлепш, калі маладыя жывуць асобна. Ты ж і сама ў гэтым пераканалася. Маладыя хочуць самі быць гаспадарамі, а вось бацькі, а пераважна маці не могуць зразумець таго, што дзеці ўжо дарослыя, і накідаюць ім сваю волю. І даводзіць гэта да канфліктаў. Не бойся клопатаў і не трымай на сілу маці. Ёй будзе лепш дома, а вам у сябе. Кожны сабе гаспадаром будзе. Тады і муж прыпомніць аб сваіх абавязках, бо спадзявацца не будзе на каго.

**Сэрцайка**

Сніцца мне прамая, роўная дарога. Раптам бачу балота, у якім смажацца скваркі. Улезла я ў гэта балота і выцягнула чырвоную скварку. Што б мог абазначаць гэты сон?

Ірка

Снілася мне, што я прычосвалася. Што ты на гэта, Астрон?

Бася

Учора ўва сне ўкусілі мяне дзве змяі. Вельмі баюся.

Люся

Снілася міліцыя. Што гэта?

Р. Л.

Што такое, калі сняцца сярэбраныя манеты?

Чытачка з Бельска




**Ірка!** На тваёй роўнай дарозе, як кажуць, уступіш у нейкае балота. Можа чакае цябе нават нейкая хвароба. Чырвоная сквaрка, аднак, дазваляе меркаваць, што выйдзеш з усяго гэтага без шванку.

**Бася!** Чакае цябе нейкі сямейны пераварот, новае жыццё. Будзе яно добрае ці дрэннае, убачыш; зменіцца яно, аднак радыкальна.

**Люся!** Ёсць у вас нейкія два лютыя ворагі, якіх варта расшыфраваць і асцерагацца. Укус змяі заўсёды прадвяшчае нейкую няшчырасць.

**Р. Л.!** Чакае вас нейкая крыўда, непрыемнасць. Так прадвяшчае сустрэча з міліцыянтам.

**Чытачка з Бельска!** Будуць у вас нейкія клопаты, але ўсе дарэмныя. Займіцеся справамі больш сур'ёзнымі і не разменьвайце сваёй энергіі, як кажуць, „на дробныя".

**Астрон**






*Дом Лукаша Сапежкі, в. Пуціска.* *Фота Васіля Дамброўскага.*







## Здароўе вясною

Вясна, нягледзячы на сваю прыгажосць, крыху чалавека стамляе. Узнік нават медыцынскі тэрмін: веснавая стомленасць. Вядома, як гэта выглядае: у вушах шуміць, нешта стукае ў сэрцы, у галаве круціцца, не хапае сілы, нервы не вытрымліваюць. Вельмі дрэнна адчуваюць сябе вясною асабліва так званыя „метэарапаты", а перш за ўсё людзі, якія дрэнна сябе адчуваюць падчас ветру. Частая змена пагоды вясною і няроўнае атмасфернае даўленне спрыяюць часта паўставанню ў іх псіхічных хвароб. Вельмі мучацца людзі, хворыя на сэрца, астму, рэўматызм.

Дык як жа жыць, каб вясна нам заўсёды спрыяла?

Перш за ўсё есці як мага больш вітамінаў, а таксама малака, кефіру і белага сыра, піць менш кавы, пазбягаць алкаголю, папяросаў. Што датычыцца вітамінаў, дык зялёных рэчаў на веснавым рынку не бракуе, і трэба іх выкарыстоўваць як мага часцей: пры снеданні, абедзе і вячэры.

Трэба шанаваць тэрмометр яшчэ больш, як каляндар: апранацца не занадта цёпла і не занадта лёгка, адным словам, не паводле даты, а паводле градусаў. Не будзем тады перагравацца і праступджвацца.

Старацца не праседжваць у дымных памяшканнях, дзе шмат курацць, а лепш пашпацыраваць на веснавым сонцы. Крыху руху і свежага паветра прыгадзяцца кожнаму!

Некаторыя практыкуюць веснавыя водпускі. Такі водпуск, аднак, некаторых больш стамляе, як памагае. Справа ў тым, што кліматычныя змены ў гэты перыяд года бываюць вельмі моцным ударам і не кожны іх лёгка пераносе. Ну, і яшчэ праблема багажу; выязджаючы ў водпуск вясною, трэба было б у нас узяць з сабой вопратку практычна на ўсе чатыры пары года: на гарачыню, на мароз, на снег і дождж.

Вясною варта наведаць доктара. Можа гэта якраз не віна вясны, а напрыклад, зоба (тарчыцы), або агульнай нервіцы. Хваробы вельмі часта праяўляюцца якраз вясною.

А наогул трэба імкнуцца да таго, каб узбуджаць у сабе добры настрой, або нават беспадстаўную радасць. Не варта думаць увесь час аб тым, што „не паспеем", што „не варта", што „не аплоціцца". Варта спрабаваць цешыцца амаль з нічога: маладымі лісткамі, кветкамі, прылятаючымі птушкамі, проста прыродай, якая без засцярог ажывае вясною.

**Эскулап**




А пакуль ішло будаўніцтва сховішчаў, іншыя каманды прыбіралі трупы. На складах пад кіраўніцтвам інтэнданта Жалтоўскага ўлічваліся ўсе прадукты. Адправіліся на вылазку каманды ваданосаў. Некалькі камандзіраў інжынерных войск хадзілі па падзямеллях, складаючы іх план. Іх упэўнена вадзілі па гэтаму лабірынту двое — мужчына ў цывільным адзенні і хлопчык-падлетак.

Гэта былі жыхар Керчы Мікалай Сямёнавіч Данчанка і яго чатырнаццацігадовы сын Коля. Мясцовы ўраджэнец, Мікалай Сямёнавіч да таго ж нейкі час працаваў у каменяломнях і выдатна ведаў размяшчэнне падзямелляў. А калі ў 1941 годзе ў Керч прыйшлі немцы, ён і Коля разам з партызанамі пайшлі ў каменяломні і правялі там некалькі тыдняў да таго часу, пакуль у снежні сюды не вярнуліся нашы войскі. Калі ж давялося ісці другі раз, Данчанка не вагаўся. На гэты раз ён прывёў туды, у каменяломні, не толькі Колю, але і сваю жонку з маленькай дачкой. Але напярэдадні, у час газавай атакі, жонка Данчанкі і яго дачка разам з іншымі жанчынамі і дзецьмі выйшлі наверх і былі захоплены ў палон, а Мікалай Сямёнавіч і Коля вырашылі да канца застацца з абаронцамі каменяломняў. Яны тут былі вельмі патрэбнымі людзьмі — першы час служылі праваднікамі па гэтых падзямеллях, потым дапамаглі скласці план каменяломняў, і ведаючы выдатна наваколле, былі добрымі дарадчыкамі, калі планаваліся начныя вылазкі гарнізона. Так і загінулі яны потым бясследна ў падзямеллях разам з большасцю іх абаронцаў.

Настала раніца, і зноў запрацавалі нагнятальныя машыны немцаў. Зноў заклубіўся ў падзямеллях удушлівы едкі дым, і гарнізон па камандзе размясціўся ў сваіх новых газасховішчах. Людзі з хваляваннем чакалі гэтага выпрабавання — ці будуць сховішчы дастаткова надзейнымі, ці не пранікне туды ядавіты дым?

Дым, праўда, знаходзіў шчыліны і прасочваўся ўнутр, але ўсё ж яго было нямнога. Людзі кашлялі, але сяк-так маглі дыхаць. Загінулі толькі тыя, у каго былі слабыя лёгкія. І хутка гарнізон прыстасаваўся да гэтых штодзённых газадымавых атак праціўніка.

А праціўнік паўтараў гэтыя газавыя атакі з нямецкай метадычнасцю з дня ў дзень на працягу паўтара месяца. І кожны дзень немцы дзейнічалі строга па раскладу. У адзін і той жа ранішні час пускаліся ў ход нагнятальныя машыны, і каменяломні запаўняліся дымам, канцэнтрацыя якога ўсё павышалася. Апоўдні немцы рабілі перапынак на некалькі гадзін — абедалі і адпачывалі. За гэтыя гадзіны дым знікаў, і зноў можна было хадзіць па падзямеллях. А потым пачынаўся „вячэрні сеанс", які працягваўся амаль да захаду сонца. І толькі ноччу гарнізон атрымліваў працяглую перадышку.

На першым часе было нямала выпадкаў, калі ў момант гэтых газавых атак гінулі людзі, нечакана захопленыя далёка ад сховішчаў без процівагазаў. Блукаючы ў клубах густога дыму, яны страчвалі правільны напрамак і гінулі, не паспяваючы дабрацца да бліжэйшага газасховішча. Тады на дапамогу прыйшлі сувязісты.

У каменяломнях знаходзіліся вялікія склады маёмасці сувязі і інжынернага абсталявання. Тут захоўвалася вялікая колькасць тэлефоннага кабелю — можа, дзесяткі або нават сотні кіламетраў. Гэты кабель працягнулі па ўсіх тунелях і калідорах, і цяпер, калі чалавека раптоўна заставала газавая атака, ён мог, трымаючыся за нітку провада, хутка дабрацца да бліжэйшага газасховішча.

Гэты тэлефонны кабель саслужыў і іншую важную службу абаронцам каменяломняў: ён дапамог вырашыць праблему асвятлення падзямелляў.

Спачатку ў каменяломнях быў сякі-такі запас бензіну, працаваў рухавічок, і частка тунеляў асвятлялася нават, электрычным святлом. Потым запас скончыўся, рухавічок спыніўся, і электрычнасць пагасла. Была яшчэ невялікая колькасць газы і саляркі, і гэта гаручае пачалі выкарыстоўваць для асвятлення, майструючы самаробныя газнічкі. Потым скончылася і гэта. Застаўся толькі адзін старадаўні спосаб асвятлення — лучына. На лучыны ішлі цяпер дошкі і скрыні, якія захоўваліся на складах.

І раптам хтосьці выявіў, што калі ізаляцыю тэлефоннага кабелю запаліць, то яна гарыць няяркім, дымным полымем, якога, урэшце, было зусім дастаткова для таго, каб асвятліць сабе шлях па падземных калідорах. Сувязісты адразу ж нарэзалі кабель кавалкамі, і з гэтага часу кожны з абаронцаў хадзіў па падзямеллях, трымаючы ў руках такі цьмяны факел. Эканоміць тут не прыходзілася — кабелю на складах хапіла б нават на цэлы год падзямельнай абароны. Адзінай нязручнасцю было тое, што гэтыя факелы давалі вельмі многа дыму, і твары людзей цяпер заўсёды былі пакрыты слоем сажы. Але з гэтым ужо даводзілася мірыцца.

*(Працяг будзе)*

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Няма лепш, як быць студэнтам!

Ужо канчаецца адзін перыяд нашага жыцця ў Варшаве — ў інтэрнаце на Смычковай. Гэтыя месяцы прайшлі незаўважальна. Прайшлі першыя добрыя ўражанні і тыя дні, калі мы прызвычайваліся да новага жыцця. Жыццё далёка ад дому не аказалася такім страшным. Можа таму, што атмасфера ў акадэміку, як і ва універсітэце, прыемная. Хаця часта работы мнагавата, а часу свабоднага мала, мы не скардзімся. Заўсёды знаходзім вольныя хвіліны, якія развесяляць нашы дні.

У інтэрнаце многа знаёмых яшчэ з ліцэя. Усе студэнты — гэта самыя лепшыя нашы сябры. Гэты кароткі час тут даказаў нам, што няма лепш, як быць студэнтам! Мы цешымся, што нашы мары споўніліся і мы можам быць студэнтамі.

У нас гарачая просьба да сяброў з апошніх класаў ліцэяў: аддайце ўсё дзеля спаўнення вашых мараў. І не пужайцеся беларускай філалогіі! Гераічна прыступайце да экзаменаў, а дзверы ў новы свет ведаў адкрыюцца самі. На падтрымку скажам вам яшчэ і тое, што няма лепшай, дружнейшай сям'і, як наша вясёлая студэнцкая сямейка на Смычковай.

**Ірэна В.**

## Дні Супраслі

Таварыства прыяцеляў Супраслі ўзнікла ў 1966 годзе. Стварыў яго Юзэф Вайтулеўскі. Цяпер таварыства налічвае больш ста членаў. Належаць да яго акрамя мясцовых, таксама прыяцелі з Беластока, Лодзі, Вроцлава, Варшавы.

Таварыства можа пахваліцца дасягненнямі. Вось некаторыя. Члены таварыства апрацавалі фальдэр „Супрасль", які можна купіць у кіёсках „Руху". У апошні час па ініцыятыве Таварыства прыяцеляў Супраслі і гмінна-мейскага камітэта Фронту адзінства народу ўпершыню нарадзілася ініцыятыва святкавання Дзён Супраслі, якія адбываюцца ад 29 мая да 5 чэрвеня. У час дзён мястэчка паказвае ўсе свае творчыя, культурныя і спартыўныя дасягненні. Дні будуць таксама служыць далейшай мабілізацыі супраслян да грамадскай працы.

На чале ганаровага камітэта Дзён Супраслі стаіць І сакратар мейска-гміннага камітэта ПАРП у Супраслі Юзэф Яроцкі. На пачатку ўрачыста адкрыты помнік прафесару Вітальду Славінскаму, які займаўся доследамі прыроды на тэрыторыі гміны Супрасль. Гарадок гэты прафесар пакахаў. І паводле яго жадання яго цела было пахавана ў Супраслі.

Помнік прафесару Славінскаму стаіць ля старой пошты, дзе ў час сваіх доследаў прафесар жыў. Гэты помнік — разьба ў дрэве 3,5-метровай вышыні запраектаваў і выканаў грамадскім чынам вучань V класа мастацкага ліцэя ў Супраслі — Здзіслаў Парчынскі пад наглядам дырэктара ліцэя мгр Вайцеха Залэнскага.

Адбудзецца таксама адкрыты сход усіх членаў і сімпатыкаў таварыства. Будзе 14 выставак з розных галін жыцця і творчасці жыхароў гміны. Будуць выступаць мастацкія і спартыўныя калектывы. Дзень 4 чэрвеня — гэта дзень моладзі. Усе жыхары Супраслі жывуць сваім святам.

**(гай)**

## Бракаробы

У мінулым годзе былі перабудаваны і адноўлены могілкі ў Бельску, дзе пахаваны савецкія салдаты. Могілкі пасля перабудовы выглядалі вельмі прыгожа. Кожная магіла была прыбрана і ў новай бетоннай агароджы. На могілках пастаўлены пастументы з прозвішчамі загінуўшых. Прыгожа была выканана ўся агароджа могілкаў.

Не прайшло аднак і паўгода, а ўжо могілкі выглядаюць, як пасля землетрасення. Бетонныя агароджы палопаліся і рассыпаліся, дзе-недзе толькі ляжаць кучы пяску і кавалкі бетону. Цэлай засталася толькі агароджа з металу, а там дзе быў бетон — руіны.

Якія бракаробы гэта рабілі? Яны ж узялі за работу вялікія грошы і павінны былі зрабіць гэта сумленна. І што на гэта гарадскія ўлады?

P.S. Нядаўна пачаліся рамонты на могілках. Ці зноў з эфектам на паўгода? А піраміды ж у Егіпце стаяць ужо чатыры тысячы год. І тады не ведалі людзі цэменту. А каб і ведалі, не ўкралі б яго, як было ў апісанай справе ў Бельску.

**(лор)**

## На партыйным чыне

Партыйны чын Дубіцкай гміны адбываўся на дарозе Дубічы Царкоўныя — Вітава. Зранку ўсе таварышы з вёсак, якія належаць да гміны, масава з'явіліся на месца работы. З бліжэйшых вёсак, як Тафілаўцы, Рутка, Істок, Грабавец, Чэхі Арлянскія людзі прыязджалі сваімі веласіпедамі; з далейшых вёсак — трактарамі мясцовага сельгасгуртка. Капалі равы і раўнялі дарогу. На гэтай дарозе плануецца ў бягучым годзе пралажыць асфальт.

Таксама ўсе школы ў гміне — вучні са сваімі настаўнікамі — удзельнічалі ў чыне. Многа было беспартыйных, многа моладзі. Работай кіраваў Іван Майстровіч.

Словы прызнання належацца арганізатарам чыну: Васілю Сегеню — гміннаму сакратару партыі, Мікалаю Чыквіну — начальніку гміны і Васілю Ляшкевічу — сакратару гміны. У час дубіцкага чыну было зроблена каля 1100 метраў дарогі і раваў, прыблізнай вартасцю 64 000 зл.

**М. Панфілюк**

## Пра школу ў Луцэ

Пачатковая школа ў Луцэ невялікая, затое прыгожая. Вучыцца тут каля 90 дзяцей. Працуе пяць настаўнікаў, а дырэктарам з'яўляецца Ян Ціванюк. Усе любяць сваю школу.

Дзеці ў школе не толькі вучацца, але і ўдзельнічаюць у розных гуртках зацікаўлення. Развівае сваю дзейнасць вучнёўская спулдзельня, у якой можна купіць розныя патрэбныя школьнікам рэчы, а таксама цукеркі і іншыя ласункі. Прадаўшчыкі змяняюцца кожны месяц. Такая праца вельмі прыдаецца, асабліва тым, хто хоча паступіць у гандлёвыя школы.

А хачу дадаць, што вучні з лучанскай школы ахвотна ідуць вучыцца далей. У мінулым годзе ўсе закончыўшыя восьмы клас, пайшлі далей — хто ў прафесіянальныя школы, хто ў тэхнікумы, а хто ў агульнаадукацыйныя ліцэі.

**Кара-кум**

## Клопаты і магчымасці гміны

У гміне Нараўка вельмі мала машын у індывідуальных гаспадароў. Ёсць 429 конных касілак, 8 трактарных, 5 снопавязалак, 29 трактараў і 1 камбайн „Вістуля". Шмат людзей ў нас маюць малыя гаспадаркі, яны больш чакаюць дапамогі СКР. Машыны СКР аднак не ўсюды могуць дайсці.

Пабудова воднага басейна ў Семяноўцы навядзе парадак у справах вады. Дагэтуль дрэнаж і меліярацыя прайшлі на 1002 гектарах. Многа зямлі трэба выкарчаваць і сабраць з яе каменне. Першыя крокі зроблены. 58 га зямлі рэкультывавана ў Масеве-І. У далейшым загаспадарацца лугі і сенажаці. У бліжэйшы час спалучэнне ўгоддзяў адбудзецца ў Тарнопалі, Лясной і Міклашэве. Добрыя палі пойдуць у СКР, а горшыя возьме надлясніцтва і пасадзіць тут лес. Лугі будуць аддадзены гаспадарам, якія пачынаюць спецыялізацыю.

Як гаворыць начальнік гміны Ю. Навіцкі, планы гміны будуць выкананы ў ста працэнтах — для дабра гміны і дзяржавы.

**А. З.**

## Школьныя конкурсы

Набліжаецца канец навучальнага года. Школы падсумоўваюць сваю працу. Сёння хачу звярнуць увагу на школьныя конкурсы. У гэтым годзе пачатковыя школы правялі іх восем.

У выпадку малых школ ёсць менш вучняў таленавітых. У большых школах справа выглядае лепш.

У гміннай школе ў Нараўцы былі праведзены ўсе конкурсы. Вось іх пераможцы: геаграфія — Рамуальд Астроўскі з Нараўкі (пад кіраўніцтвам настаўніцы Дануты Зубрыцкай), ён жа атрымаў пасведчанне і на ваяводскім конкурсе; матэматыка — Мірaслаў Скепка з Нараўкі (наст. Аня Крышэнь); гісторыя — Аліна Ціванюк з Лукі (наст. Юлія Смольская); хімія — Янка Каролька з Ляўкова (наст. Васіль Цялушэцкі); польская мова — Аля Харкевіч з Ляшукоў (наст. Раіса Харкевіч); фізіка — Міраслаў Скепка з Нараўкі (наст. Анна Крышэнь); руская мова — Эва Ахрымюк з Ляўкова (наст. Ірына Пташынская); беларуская і савецкая песні — калектыў з Ляўкова пад кіраўніцтвам Васіля Цялушэцкага — дырэктара школы.

**А. З.**

## У Курашаве без дарогі

У канцы сакавіка пабываў я ў вёсцы Курашава Чыжоўскай гміны. Ідучы праз вёску з поўдня ў напрамку ракі Локніца, я ўбачыў некалькі панадворкаў, залітых вадою. Яны стаялі ў якіх 150 метрах ад рэчкі. Аказваецца, што людзі не могуць дайсці па корм для жывёлы. Усе склепы пад дамамі залітыя. Чаму так дзеецца?

Нібы звычайна, вада равамі плыве на гэтыя панадворкі, а далей няма ёй дарогі. У вёсцы быў дрэнны брук, і ўлады гміны прынялі пастанову — будаваць новую вуліцу. Прыгожая, выгодная стала вуліца. Але бяда ўся ў тым, што равы ад гэтых панадворкаў у напрамку ракі не абніжаюцца, а робяць горб, які не прапускае вады. Куды ж яна мае падзецца? Найгорш тым гаспадарам, якія тут маюць будынкі. Трэба чакаць месяц і больш, каб вада высахла.

А мо ўлады гміны ў Чыжах знойдуць іншае выйсце?

**А. З.**

## Для каго поезд?

Моладзь, якая даязджае ў гайнаўскія школы з напрамку Чаромхі і Семяноўкі, а таксама Бельска і Белавежы, часта не паводзіць сябе культурна ў поездзе. Нярэдка можна пачуць вульгарныя словы, хлопцы і дзяўчаты па 15-16 год граюць у карты і кураць папяросы. Калі звернеш ім увагу на гэта, робяць яшчэ наперакор.

Таксама дрэнны прыклад даюць людзі старэйшыя — працаўнікі чыгункі, якія даязджаюць на працу ў Семяноўку. Тут ездзяць паязды з вагонамі для някурачых. На жаль, не абавязвае, відаць, гэта працаўнікоў ПКП.

Папулярнае сярод гэтых працаўнікоў так званае „рухомае касіна". Што гэта такое? Гэта ігра ў карты ў паяздах. Часта не можна прайсці калідорам, бо там поўна людзей, якія стаяць і глядзяць на гуляючых.

Як на гэтыя справы глядзяць улады аховы чыгункі? Падарожныя тут бяздрадныя. Ёсць жа адпаведныя законы на чыгунках. Чаму самі працаўнікі чыгункі іх не шануюць? І даюць дрэнны прыклад моладзі. Варта шырэй зацікавіцца гэтай праблемай.

**Я-Ша**

## Каб не было затрат

Ад 1976 года ПЗУ страхуе свіней і парасят. Гаспадары вельмі гэтаму рады. Цяпер не так, як калісьці было — падохне свінка, закапаў — і на гэтым закончылася.

Але ў гаспадарцы авечка таксама каштоўны дабытак, як і свіння. Авечка каштуе 3-4 тысячы злотых, ды яна не застрахавана. Калі падохне, трэба закапаць — і нічога не атрымаеш.

Радныя гміны Шудзялава выступалі на сваёй сесіі з прапановай, каб увесці страхоўку авечак. Але ПЗУ не ведае, якія формы прыняць. На наш погляд трэба прыняць як мага прасцейшыя формы. Так як у выпадку свіней. Калі ёсць у гаспадара авечка, трэба налічыць яму пры падатку аплату за страхоўку і канец. Такая наша прапанова.

**Віт**

## Раённая фільматэка

Даўно адчувалася ў Бельску патрэба раённай фільматэкі школьных, навуковых і асветных фільмаў. Такую фільматэку ўжо горад мае. Гэта аддзел Беластоцкага „Фільмосу". З бельскай фільматэкі ахвотна карыстаюцца ўсе школы, а таксама шмат устаноў і прадпрыемстваў горада, бліжэйшых і далейшых аколіц.

**Мікалай Няплоха**

## У Відаве будуецца святліца

Калі солтысам у вёсцы стаў А. Сцяпанаў, ён дагаварыўся з начальнікам гміны ў Бельску, каб у Відаве пабудаваць святліцу. Стары дом выбралі ў Бельску.

У суботы і нядзелі ўсе жыхары — старэйшыя і моладзь перавезлі будынак, зрабілі фундаменты і паставілі дом. Будынак ужо стаіць і толькі трэба яго закончыць. Пётр Кубай рабіў здымкі ў час гэтай працы — адзін з іх высылаю вам, дайце ў „Ніву".

**Андрэй Гаўрылюк**

**Ад рэд.** Здымка, на жаль, даць не можам, ён вельмі слабы тэхнічна. А за пісанне да нас дзякуем!

## Людзі добрай работы

У кожнай газеце можна прачытаць пра людзей добрай работы. У вёсцы Дубічы Царкоўныя таксама ёсць такія людзі. Сярод іх Ірка Анхімюк, якая працуе прадаўшчыцай у спажывецкім кіёску. У яе чыста і парадак, летам на століках стаяць свежыя кветкі, а зімой прыгожыя ялінкі. Кожнага яна абслужыць ветліва і хутка, тавараў не бракуе.

Другім чалавекам добрай работы ў Дубічах Царкоўных з'яўляецца наш пісьманосец Мікалай Панфілюк. Ён штодня робіць многа кіламетраў, ці дождж, ці снег, разносячы газеты і пісьмы, асабліва любіць „Ніву". І яшчэ трэба адзначыць аднаго чалавека добрай работы, які ўжо 13 год перапрацаваў у дубіцкім кіно. Гэта кінааператар Уладзімір Грыгарук. Усім ім шчыра дзякуем за сумленную працу.

**Сусед**

## У Міхалове

У памяшканні агульнаадукацыйнага ліцэя ў Міхалове адбыўся конкурс „Моладзь у змаганні з пажарамі". Удзел прымалі трохасабовыя групы: з пачатковай школы ў Міхалове, пачатковай школы ў Шымках, агульнаадукацыйнага ліцэя і школы механізацыі сельскай гаспадаркі ў Міхалове. Усе ўдзельнікі выказалі высокі ўзровень ведаў. А такія веды моладзі прыдадуцца, чакае нас лета.

**Кара-кум**

## За кубак начальніка горада

У Бельску адбыліся спаборніцтвы жаночых валейбольных каманд з чатырох сярэдніх школ. Пераможцамі сталі валейбалісты з ТРР, якія атрымалі дыплом і (упершыню) прыгожы кубак начальніка горада Бельска.

**Мікалай Няплоха**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да заметкі „А КУДЫ ЗАЙСЦІ ЦЯПЕР?", „Ніва № 17/1104 ад 24 красавіка 1977 года.**

**Адказвае:**

**„SPOŁEM" WOJEWÓDZKA SPÓŁDZIELNIA SPOŻYWCÓW W BIAŁYMSTOKU ODDZIAŁ W BIELSKU PODLASKIM.**

W nawiązaniu do notatki prasowej z dnia 24 kwietnia 1977 roku WSS Oddział w Bielsku Podlaskim wyjaśnia, że bar przy ul. Mickiewicza uległ likwidacji z dniem 1 listopada 1976 roku. Niemniej jednak do chwili uruchomienia nowego zakładu, celem udostępnienia społeczeństwu możliwości korzystania z tańszych posiłków, wprowadzono do sprzedaży zestawy posiłków zarówno śniadaniowych jak i obiadowych typu barowego w restauracji „Podlasianka".

Uruchomienie nowego obiektu z przeznaczeniem na bar szybkiej obsługi przewiduje się z dniem 10 czerwca bieżącego roku przy ul. Kapitana Wysockiego.

**Zastępca Dyrektora**
**Bazyl Waszkiewicz**




**Міраслаў Шварц, Крукоўшчына.** На жаль, тэкстаў польскіх да ўсіх замежных песень не маем. Наогул з тэкстамі цяжка, здабываем іх рознымі спосабамі. Індывідуальна тэкстаў не высылаем. Каб толькі маглі мы знайсці іх для публікацыі ў кутку „па заяўках"!

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

У Бельску на вуліцы Міцкевіча на пераходзе для пешаходаў матацыкліст падбіў чалавека, якога цяжка параніў.

А ў Беластоку „Жук" наехаў на двух хлапцоў — 10 і 9 гадоў. Яны неасцярожна выбеглі на вуліцу з-за стаячага самахода. Абодва хлопцы знаходзяцца ў бальніцы.

У Міхалове 15-гадовы матацыкліст, які вёз таксама 15-гадовую дзяўчыну, наехаў на старэйшую жанчыну, якая праходзіла праз вуліцу. Жанчына паламала пальцы рукі і разбіла галаву, а ў дзяўчыны пабітае калена і патрасенне мазгу.

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.



 

Імпартгумар

## Ну, дык як цябе завуць?

Гржыбекавы купілі магнітафон. Паставілі яго на стол і паклікалі свайго чатырохгадовага сына Тананека.

— Тананек, скажы ў гэту штучку, як цябе завуць?

Тананек маўчыць, спужана глядзіць на мікрафон.

— Як завуць нашага маленькага хлопчыка? — ласкава гаворыць пані Гржыбекава.

Тананек глядзіць на мікрафон і маўчыць.

— Ну, што ты, дурненькі...

— Тананек, напэўна, хоча спаць? — пытае, падсюсюкваючы, галава сям'і.

Малы нясмела ўсміхаецца.

— Скажы, чаму табе так весела? Ты ж харошы хлопчык! Не трэба ўпарціцца... Глядзі ў мяне, хутка пойдзеш у ложачак! — грозна папярэджвае пані Гржыбекава. — Ты чуеш, маленькі нягоднік?

Тананек вось-вось расплачацца.

— Ну, хто цябе скрыўдзіў, хто? Толькі не раві, калі ласка! — просіць бацька. — Хуценька скажы ў мікрафон, як цябе завуць...

Цішыня...

— Ну, як цябе завуць? Ты што, імя сваё забыў?! — узнімае голас галава сям'і. — Не можаш сказаць, што цябе завуць Та-на-нек?

— Тады хай скажа, каго ён любіць, — грозна патрабуе мама. — Каго ты любіш, Тананек? Ну? Мамачку ты любіш?

— Ну? — зноў уступаецца бацька. — Калі не любіш, я прадам яе?!.. Табе не шкада мамачкі?.. Ну што ж, калі Тананечку не шкада нашай мамачкі, я пайшоў прадаваць яе...

Тананек пачынае плакаць.

— Ідыёт нейкі! Не дзіцё, а ідыёт! — крычыць пані Гржыбекава.

— Толькі, калі ласка, не стукай сябе па галаве, — саркастычна заўважае пан Гржыбек, — усё роўна туды не дастукаешся!

— За маю галаву можаш не хвалявацца! Дарэчы, гэта твой сын! Чаго ж тут здзіўляцца!

— У нашай сям'і ідыётаў не было!

— А ў нашай яны былі?

Бедны Тананек, разявіўшы рот, стаіць перад мікрафонам і нічога не разумее. Яго маці ўсё больш распальваецца.

— Ты, здаецца, збіраешся прадаць мяне? — паварочваецца яна да мужа. — Ці не так?

— Пытанне ў тым, ці знойдзецца купец!

— Ах, так? Аб гэтым будзь спакойны!

— Але...

— Толькі не гавары „але“!

— Гэта ж чаму?

— Таму што я ведаю, што далей будзе!

— А вось мы зараз гэта і запішам! На магнітафончык!

— Ну і свіння ж ты!

— Гэта я ўжо запісаў!

Пухлая рука пані Гржыбекавай прыпячатваецца да шчакі мужа.

— Тананек Гржыбек, — раздаецца голас з кутка. — Мяне завуць Тананек Гржыбек. Я люблю татачку і мамачку. Тананек...

У кватэры запанавала цішыня, і толькі Тананек цярпліва, пакуль не кончыцца магнітафонная стужка, цвердзіць:

— Мяне завуць Тананек, мяне завуць Тананек... Тананек... нанек... анек... нек... ек... е...

**Эдуард Пергнер**
(Чэхаславакія)



**Ён гаварыў: дзеці — гэта яшчэ кветкі жыцця, вось унукі пойдуць!..**

# НІЎКА



## МІНІВЕРШЫ

### КЛАПАТЛІВЫ БАЦЬКА

*Хоць сам сядзеў на шыі ў жонкі,*
*Ды на дзяцей не забываў:*
*Пустыя пляшкі з-пад пярцоўкі*
*Ім на цукеркі выдаваў.*

**Сцяпан Грыцэнка**

### АДКУЛЬ?

*Кабеце муж казаў:*
*„Гадуем грубіяна!*
*Адкуль у Юрку гэткая загана?“*
*І раптам на фальцэт*
*сарваўся ён:*
*„Не бачыш, доўбня!*
*Выкіпіць булён!“*

**Фелікс Кота**

*„Такім чынам, Машанька, на тым жа месцы і ў тую ж гадзіну“.*

### ВЫТЛУМАЧЫЎ

— Тата, а чаму, як мама разгневаецца, кажа: „Чорт бы цябе ўзяў!“ Чаму яна ніколі не кажа: „Чартоўка б цябе ўзяла!“? Хіба чартовак няма?

— Ёсць, сынок. Ды, на жаль, не яны мужоў бяруць, а мужы — іх.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Міша пытае свайго аднакласніка:

— Ферко, колькі год твайму бацьку?

— Восем.

— Гэта немагчыма!

— Чаму? Ён стаў бацькам восем год назад, калі я нарадзіўся.

*

— Жак, папрасі прыйсці ў школу дзядулю!

— Чаму дзядулю?

— Каб ён пагаварыў з тваім бацькам: у цябе ў хатніх сачыненнях задужа многа памылак.

*

Тоўстая дама прагульваецца па вуліцы, відавочна, чакаючы кагосьці.

За ёй неадступна ходзіць хлопчык.

— Што табе трэба, малы? — абарочваецца да яго дама. — Ты нешта хацеў спытаць у мяне?

— Не, мадам, я проста люблю хадзіць у цені.

### НЕ ЎПРАВІЛАСЯ

Маці: — Дачуся, насыпала кураняткам проса? А вераб'ёў адагнала?

Дачка: — Хіба, мама, іх нагонішся, яшчэ каб толькі нашы, а то і суседскія.

### ЦІ ДОЎГА?

— Бабуся, гэта праўда, што калі мяне прывезлі з магазіна, то татка піў віно?

— Праўда, родненькі, праўда.

— І доўга ён піў?

— Ды яшчэ дасюль п'е.

### ПЛАКСІВЫ

Сын Кастуся быў вельмі плаксівы. З-за яго жонка не спала цэлыя ночы. Аднойчы яна сказала мужу:

— Я сёння адпачну, а ты пабудзеш за няньку.

Кастусь тут жа збіраецца кудысьці пайсці.

— Ты куды гэта сабраўся? — пытаецца жонка.

— Пайду, паклічу Сухарэвіча.

— Навошта табе Сухарэвіч?

— Ты ж ведаеш, — адказвае Кастусь, — што, калі ён чытае сваю лекцыю, слухачы засынаюць. Дык няхай ён паспрабуе супакоіць нашага сына.

## ГУМАР З

### У ШКОЛЕ

Настаўнік пытае малога Васілька:

— Скажы мне, малы, з чаго зроблены твой шарачок?

— З сукна.

— Правільна. А з чаго робіцца сукно?

— З воўны.

— Малайчына. А воўну хто нам дае?

— Авечкі.

— Разумнік! Значыць, якая жывёліна дала табе гэты шарачок?

— Бацька...

*Адвёў гнеў бацькоўскі.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Вольгі Карчэўскай з Клейнік, Алі Васілюк з Курашава і Галіны змяшчаем песню*

## List z frontu

słowa: Janusz Przymanowski
muzyka: Benedykt Konowalski

Pierwszym słowem pozdrowiona bądź!
Razem z matką przy okienku siądź
i czytając, moim głosem mów,
obu wam posyłam garść frontowych słów.
List leci jak gołąb,
o drogę nie pyta,
lecz może ja zginę,
nim ty go przeczytasz.
Nad okopem przedwiosenny mróz,
noc za krótka, by do domu pójść,
więc ołówek biorę w chłodną dłoń,
póki nam nie każą bagnet kłaść na broń.
List leci jak gołąb...
Coraz dalej odrzucamy front
i do ciebie coraz dalej stąd.
Poczta nie chce mego serca brać,
lecz ty w odpowiedzi płatek róży kładź.
List leci jak gołąb...
Płatek róży i złocisty włos
między kartki na szczęśliwy los.
Miłość świeci niby światło gwiazd.
Słowa jeszcze żyją, gdy już nie ma nas.
List leci jak gołąb...

## КУРЁЗЫ

### КАБ ВЕДАЎ БАЦЬКА

Доўгі час 25-гадовая шведка Ева Сангуст нікому не прызнавалася, хто з'яўляецца бацькам яе сына. Аднойчы, калі да яе даляцела звестка аб нечаканай смерці вядомага амерыканскага эстраднага артыста Джымі Гендрыха, яна на ўвесь свет заявіла, што гэта і ёсць бацька яе маленькага Джымі і падала заяву ў суд, каб пакінулі капітал (каля мільёна) Джымі-старэйшага за Джымі-малодшым, той капітал, на які зараз прэтэндуе бацька артыста.

У доказ яна завярае суд, што была блізкай знаёмай Гендрыха, калі той рабіў сваё турнэ па Еўропе, і ў свой час пісала Гендрыху што чакае сына. Але той чамусьці не даў адказу на яе пісьмо, ды і ніхто не можа пацвердзіць, што Гендрых, будучы ў жывых, атрымаў гэтае пісьмо.

Пацвердзіць гэта мог бы толькі сам Гендрых, ды мёртвыя, як вядома, маўчаць. Якое слова скажа з гэтай нагоды суд, невядома. Можа, ён і дапаможа Еве Сангуст даказаць, што менавіта нябожчык Гендрых і ёсць бацькам яе маленькага сына.

### ІНАКШ НЕЛЬГА

— Маэстра, спытала пачынаючая піяністка ў Ліста, — ці праўда, што піяністам трэба нарадзіцца?

— Ісцінная праўда, сударыня, — адказаў кампазітар, — не нарадзіўшыся, нельга іграць на раялі...




**Дзеці! Не дазваляйце дарослым гуляць з агнём.**